

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№71(584) 16 красавіка 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618667 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Пятница — день тяжелый?

**Главы государств СНГ встретятся сегодня в Минске во второй половине дня — начало заседания запланировано на 15 часов.**

Говорить о круге вынесенных для обсуждения верхов вопросов можно только предположительно. Как известно, встреча проходит по инициативе Бориса Ельцина, который в мартовском обращении к главам государств Содружества выступил за "более четкое организационное оформление и создание органов по добровольной координации действий СНГ". В этом же послании российский президент высказался и за создание эффективной системы безопасности в рамках СНГ. Кстати, 15 апреля Верховный Совет России ратифицировал устав Содружества Независимых Государств.

За создание четко функционирующих органов оборонного союза (по типу существующих международных военных организаций) в соответствии с договором о коллективной безопасности выступает и Нурсултан Назарбаев. Так что, судя по всему, ожидаются серьезные заявления по этим вопросам. Но, не исключено, что повестка дня этим не ограничится...

**Владимир ГЛОД, Лариса ЛАЗАРЬ, Белинформ.**

### Вкратце

**Изучению экономики Кыргызской Республики и определению возможных областей сотрудничества посвящен официальный визит правительственной делегации Швейцарии в Кыргызстан.**

Вчера возглавляемая министром финансов Швейцарии Отто Штихом делегация прибыла в Бишкек, чтобы выработать общую стратегию сотрудничества двух стран в Международном валютном фонде и Всемирном банке.

❑

**Верховный Совет России ратифицировал вчера устав Содружества Независимых Государств, принятый в Минске 22 января 1993 года.**

За это решение проголосовало большинство народных депутатов на совместном заседании палат.

❑

**Президент России Ельцин намерен издать указ, гласящий, что постановление Съезда народных депутатов о порядке подсчета голосов на референдуме 25 апреля противоречит Конституции, поэтому учет голосов надо вести в соответствии с законом о референдуме.**

Ельцин сообщил об этом на встрече с представителями демократических организаций в Кремле.

❑

**Уже 500 новогрудчан поставили свои подписи на специальном бланке, где выражалась просьба к руководителю государства Станиславу Шушкевичу использовать все свое влияние и авторитет, чтобы Беларусь сохранила статус безъядерного нейтрального государства.**

Сбор подписей проводится по инициативе местной рады БНФ.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Доллар: апрельские заморозки

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 785 | 800 |
| Немецкая марка | 483 | 502 |
| Английский фунт | 1151 | 1185 |
| Финская марка | 130 | 134 |
| Французский франк | 138 | 142 |

**Несмотря на то, что на вчерашних торгах Московской межбанковской валютной биржи доллар перескочил за рубеж 770 рублей, в Беларуси курс "зеленых" практически не изменился.**

По мнению экспертов, это связано с острой нехваткой в республике наличных денег.

Кстати, банк "Комплекс" сейчас покупает валюту и по безналичному расчету.

❑

**Процентные ставки по кредитам, продаваемым Национальным банком на Белорусской фондовой бирже, похоже, достигли своего предела.**

На последних биржевых торгах трехмесячный кредит шел под 216 процентов.

**Антон ЧЕКОВ.**

### У нас много общего с Нидерландами

**Подписанием совместного коммюнике завершились 14 апреля переговоры министров иностранных дел Республики Беларусь Петра Кравченко и Королевства Нидерландов Питера Хендрика Коайманса.**

В нем подчеркнута решительность содействовать безопасности и сотрудничеству в Европе, созданию мирной и свободной Европы на основе демократии и уважения прав человека.

Руководители внешнеполитических ведомств решительно высказались за укрепление связей и сотрудничества между их странами как на двусторонней, так и на многосторонней основе.

Министр иностранных дел Нидерландов в этот же день нанес визит Председателю Совета Министров Беларуси Вячеславу Кебичу и имел беседу с Председателем Верховного Совета республики Станиславом Шушкевичем.

**Татьяна ХРАПИНА.**

### Разбронированный Руцкой

**Представитель вице-президента России Федоров заявил, что Александр Руцкой лишился своего бронированного автомобиля и личного врача, а число его телохранителей сокращено.**

Федоров сказал корреспондентам, что Руцкой не смог получить никаких объяснений по этому поводу, однако полагает, что ответственность за это несут люди из окружения президента Ельцина.

Помощники начальника главного управления охраны опровергли это сообщение, передало вчера радио "Свобода".

### Дорогая моя столица

**С сегодняшнего дня прибывающие в Минск граждане, проживающие за пределами Беларуси, но в границах бывшего СССР либо без постоянного места жительства, обязаны зарегистрировать свое пребывание в столице.**

Горисполком мотивирует свое решение предупреждением правонарушений. А в качестве частичной компенсации расходов за пребывание в городе будет брать с "иностранцев" по два процента от месячной минимальной зарплаты (принятой в Беларуси) за каждый день гостевания.

Согласно временному положению, регистрация граждан проводится в суточный срок со дня прибытия по месту проживания (за исключением транзитных пассажиров, находящихся на вокзале с проездными билетами на руках). За уклонение от регистрации и укрывательство предусмотрены крупные штрафные санкции.

**Юрий СОКОЛ.**

### Корзина на плечах потребителя вновь потяжелела

**Стабилизация экономики республики, объявленная в начале года с высоких трибун, — не более, чем иллюзия. На деле кризисный спад производства продолжается. К такому выводу пришли участники проведенного в Минске республиканского собрания представителей первичных профсоюзных организаций.**

Собрание высказалось, в частности, за необходимость государственного регулирования цен на основные продукты питания и тарифов на услуги. В принятой им резолюции правительству республики предложено "оперативно проследить изменение стоимости "потребительской корзины" и в мае этого года пересмотреть размер минимальной заработной платы, пенсий, пособий, стипендий. Уже в апреле провести индексацию денежных доходов низкооплачиваемых слоев населения, неквалифицированных работников, пенсионеров, студентов соответственно росту потребительских цен".

### Медицинский прогноз погоды на 16 апреля

**Погода в Минске и области будет определяться южной периферией антициклона. Ожидается рост атмосферного давления и содержания кислорода в воздухе.**

Сегодня возможно ухудшение самочувствия метеозависимых больных, предрасположенных к спастическим реакциям (гипертония, стенокардия, бронхиальная астма, желчекаменная болезнь). Им рекомендуется щадящий режим, теплые процедуры, самомассаж шейно-плечевого пояса, прием успокаивающих и сосудорасширяющих лекарственных средств.

**Антонина КАРОЗА, научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**

### Национальное, остренькое

**После семи лет забвения вернулись на прилавки магазинов Витебщины "чернила" — вина из садового сырья.**

Отрасль местного пищепрома, подрубленная в антиалкогольном угаре, оживает на предприятиях, где сумели сохранить или восстановить "опальные" технологические линии. Напиток, именуемый в народе "антоновкой" либо "червивкой", готовится гениально просто: этиловый спирт разбавляют яблочным соком. На Полоцком винзаводе, правда, в духе времени придали возрожденной продукции национальный колорит — запах и привкус тмина, назвав результат "Пикантным".

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

## Зварот Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да Вярхоўных Саветаў, кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін—удзельніц СНД

З моманту ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў прайшло амаль паўтара года. У свеце ўзнікла асобае міждзяржаўнае фарміраванне, удзельнікі якога значную ўвагу прыдавалі стварэнню паміж сабой новых адносін, у тым ліку супрацоўніцтву ў эканамічнай, палітычнай і іншых галінах. Заключаліся дагаворы як у рамках Садружнасці Незалежных Дзяржаў, так і паміж асобнымі краінамі СНД. Аднак многія заключаныя дагаворы належным чынам не выконваюцца.

Улічваючы гэта, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь звяртаецца да Вярхоўных Саветаў, кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін—удзельніц СНД з прапановай ацаніць выніковасць выканання раней заключаных дагавораў у рамках СНД і ажыццявіць канкрэтныя меры па выкананню прынятых абавязацельстваў. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь лічыць мэтазгодным разгледзець гэта пытанне таксама на Міжпарламенцкай Асамблеі краін—удзельніц СНД.

9 красавіка 1993 г.
г.Мінск.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб дакладзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. аб становішчы рэспублікі і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама даклад Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. аб становішчы рэспублікі і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці.

2. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець крытычныя заўвагі і прапановы народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, выказаныя на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры абмеркаванні гэтага пытання, і прыняць неабходныя меры па іх рэалізацыі.

3. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадставіць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праекты канцэпцый аб знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь.

4. Пацвярджаючы імкненне Рэспублікі Беларусь да набыцця статусу нейтральнай дзяржавы, замацаванае ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевічу С.С. падпісаць Дагавор аб калектыўнай бяспецы, які заключаны 15 мая 1992 года ў горадзе Ташкенце, з заявай аб адпаведных агаворках.

Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падрыхтаваць агаворкі, якія выключаюць, у прыватнасці, прымяненне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі іншых дзяржаў, размяшчэнне і прымяненне ўзброеных сіл іншых дзяржаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і ўнесці іх для разгляду пры ратыфікацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы.

5. Уключыць у парадак дня чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанне аб правядзенні абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму па важных пытаннях унутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці рэспублікі, адным з якіх будзе пытанне аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Дагавора аб калектыўнай бяспецы, які заключаны 15 мая 1992 года ў горадзе Ташкенце.

6. Прыняць зварот да Вярхоўных Саветаў, кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін—удзельніц СНД з прапановай ацаніць выніковасць выканання раней заключаных дагавораў у рамках СНД і ажыццявіць канкрэтныя меры па выкананню прынятых абавязацельстваў (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

9 красавіка 1993 г.
г.Мінск.
№2274-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб эканамічнай сітуацыі, стане і развіцці эканамічных адносін з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адзначае, што эканоміка рэспублікі знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы. Значны ўплыў на яе аказалі разбурэнне гаспадарчых сувязей, рэзкае зніжэнне паставак энерганосьбітаў, асабліва нафты, іншых стратэгічных рэсурсаў, шматразовае павышэнне цэн на іх.

Меры, якія прымаюцца органамі дзяржаўнай улады і кіравання ўсіх узроўняў рэспублікі, недастатковыя. Пераадоленне спаду вытворчасці не набыло ўстойлівага характару, зніжаюцца нацыянальны даход і жыццёвы ўзровень насельніцтва.

Захоўваюцца нерацыянальная структура вытворчасці, якая не адпавядае патрэбнасці рэспублікі і магчымасцям сыравіннай базы, неканкурэнтаздольнасць многіх відаў прадукцыі, абмежаванасць экспартнага патэнцыялу і валютных сродкаў.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевічу С.С., Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Кебічу В.Ф. неадкладна ўступіць у перагаворы з кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў, зацікаўленых у эканамічнай інтэграцыі з Рэспублікай Беларусь, аб стварэнні эканамічнага саюза, дзейнасць якога ажыццяўлялася б на прынцыпах строгага выканання прымаемых рашэнняў, правядзення сумеснай эканамічнай палітыкі, збліжэння нацыянальнага заканадаўства, стварэння ў гэтых мэтах неабходных каардынацыйных і праваўстанаўліваючых інстытутаў.

З улікам гэтага прадаставіць ім паўнамоцтвы на заключэнне пагадненняў па пытаннях адмены двухбаковага міждзяржаўнага клірынгу, экспартна-імпартных пошлін і квот у гандлі, аднаўленне адзіных унутраных цэн на энергарэсурсы, сыравіну і іншую стратэгічную прадукцыю, забеспячэнне ўзгодненай бюджэтнай, грашова-крэдытнай, валютнай і мытнай палітыкі.

2. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прааналізаваць практыку выканання дзеючага заканадаўства рэспублікі ў сферы эканамічных адносін і ў мэтах павышэння яго ўплыву на развіццё эканомікі ўнесці на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы аб неабходных змяненнях.

3. Камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і пытаннях Садружнасці Незалежных Дзяржаў; па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі; Планавай і бюджэтна-фінансавай; па прамысловасці і паслугах насельніцтву; па аграрных пытаннях, харчаванню і сацыяльнаму развіццю сяла прадставіць на ратыфікацыю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пакет адпаведных пагадненняў, падпісаных кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў, па эканамічных пытаннях.

4. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

4.1. У месячны тэрмін зацвердзіць праграму структурнай перабудовы прамысловасці, забяспечыўшы стымуляванне вытворчасці жыццёва важнай для рэспублікі прадукцыі, канкурэнтаздольнай на знешніх рынках.

4.2. У першым паўгоддзі бягучага года вырашыць пытанні выкарыстання свабодных магутнасцей прадпрыемстваў абароннага сектара прамысловасці, спецыялізаваных на выпуску прадукцыі ваеннага прызначэння.

4.3. Правесці перагаворы з урадам Расійскай Федэрацыі аб адмове ад збірання пошлін, падаткаў і збораў на тавары, якія перамяшчаюцца паміж тэрыторыямі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь.

4.4. У сувязі са значным дэфіцытам прагназіруемага гандлёвага балансу з Расійскай Федэрацыяй і Літоўскай Рэспублікай правесці перагаворы аб заключэнні пагадненняў аб атрыманні міждзяржаўных доўгатэрміновых крэдытаў у 1993 годзе ў агульнай суме не больш як 500 мільярдаў рублёў.

4.5. З удзелам Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь заключыць пагадненні аб умовах і тэрмінах пагашэння ўзаемнай запазычанасці па выніках гандлёва-эканамічных адносін за 1992 год з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў склад СССР.

4.6. Аказваць падтрымку прадпрыемствам і арганізацыям рэспублікі ў стварэнні сумесных аб'яднанняў (асацыяцый, прадпрыемстваў) з гаспадарчымі структурамі краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

4.7. Пастаянна ажыццяўляць меры па павышэнню матэрыяльнай зацікаўленасці калгасаў, саўгасаў, фермерскіх гаспадарак і іншых таваравытворцаў у павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі праз забеспячэнне парытэтнасці фінансава-эканамічных узаемаадносін сельскай гаспадаркі з іншымі галінамі эканомікі і меры дзяржаўнай падтрымкі аграпрамысловага комплексу.

4.8. Сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь вырашыць пытанне крэдытавання затрат, звязаных з правядзеннем веснавой сяўбы, завяршэннем зімоўкі жывёлы, нарыхтоўкі і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, будаўніцтва жылля на сяле. Забяспечыць у прыярытэтным парадку выдзяленне неабходных сельскай гаспадарцы матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў. Прадоўжыць работу па перадачы мясцовым Саветам народных дэпутатаў ведамасных аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння ў сельскай мясцовасці. Прадугледзець доўгатэрміновае крэдытаванне калгасаў і саўгасаў для будаўніцтва жылля на сяле.

4.9. Да 1 верасня бягучага года вывучыць практыку прадастаўлення падатковых і сацыяльных ільгот і ўнесці прапановы па іх упарадкаванню.

4.10. Ажыццявіць далейшую лібералізацыю знешнеэканамічнай дзейнасці, уключаючы значнае скарачэнне пераліку ліцэнзуемых і кваціруемых тавараў, зняцце іншых абмежаванняў на знешнегандлёвыя аперацыі, расшырэнне паўнамоцтваў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і прадпрыемстваў.

5. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь:

5.1. Па ўзгадненню з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь унесці карэктывы ў праграмы крэдытнага забеспячэння прыярытэтных напрамкаў развіцця эканомікі Рэспублікі Беларусь на 1993 год, прадугледзеўшы павелічэнне выдачы крэдытаў на індывідуальнае і кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва, фарміраванне абаротнага капіталу прадпрыемстваў, гаспадарак і гандлёвых арганізацый, высокаэфектыўныя капітальныя ўкладанні.

5.2. Выдаваць у 1993 годзе Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь і мясцовым органам улады крэдыты ў межах зацверджаных памераў дэфіцыту рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў.

5.3. Па ўзгадненню з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь выдаваць на ўзаемнай аснове нацыянальным (цэнтральным) банкам іншых дзяржаў беспрацэнтныя тэхнічныя (сезонныя) крэдыты для разлікаў з улікам збалансаванасці тавараабароту.

6. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь выйсці з ініцыятывай ад Рэспублікі Беларусь да іншых краін—удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў аб ратыфікацыі падпісаных кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў пагадненняў, а таксама адмене заканадаўчых і іншых актаў, якія садзейнічаюць працэсу эканамічнага адасаблення і негатыўна ўплываюць на эканамічныя і гаспадарчыя ўзаемаадносіны.

7. На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь заслухаць інфармацыю Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб ходзе выканання гэтай пастановы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

31 сакавіка 1993 года.
г.Мінск.
№2264-XII

## С. Шушкевіч супраць уваходжання Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі СНД

### Са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам гутарыць карэспандэнт агенцтва "Інтэрфакс" Вячаслаў Зяньковіч.

**— Станіслаў Станіслававіч! Чаму вы супраць далучэння Беларусі да Дагавора СНД аб калектыўнай бяспецы?**

— Перш за ўсё таму, што з'яўляюся прыхільнікам правядзення паслядоўнай палітыкі. Калі мы ў канстытуцыйным законе абвясцілі імкненне стаць нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавай, дык дзеянні на шляху да гэтай мэты не павінны супярэчыць прынцыпам дзяржаўнага нейтралітэту. На справе ж адбываецца адваротнае. Няўжо для таго, каб стаць нейтральнай краінай, Беларусі трэба спачатку ўступіць у ваенны саюз? Няўжо ў ходзе раззбраення можа ўзнікнуць неабходнасць у даўзбраенні? Абсурд! Прымаючы рашэнне аб уваходжанні Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі СНД, большасцю дэпутатаў кіравала старая сацыялістычная звычка міфічнымі, надуманымі "вышэйшымі" інтарэсамі апраўдваць адступленне ад Закона.

**— Надуманымі? Але ў якасці аргумента прыхільнікі далучэння Беларусі да Дагавора прыводзяць жорсткую пазіцыю Расіі, якая, па іх словах, мае намер браць плату ў цвёрдай валюце за камплектуючыя вузлы, запчасткі да баявой тэхнікі і ўзбраення, што пастаўляюцца ў рэспубліку.**

— Гэта выдумка. Ва ўсякім разе мне асабіста не вядомы ніводны дзяржаўны дзеяч Расіі, які б у вуснай ці пісьмовай форме пра гэта заяўляў. Я спрабую высветліць, хто мог выступіць з такімі намерамі. Некалькі "адрасоў", на якія мне ўказалі, праверыў асабіста. У ходзе размоў высвятляецца, што ні аб чым падобным расійскія кіраўнікі нікому не гаварылі.

Урад матывуе неабходнасць далучэння да Дагавора аб калектыўнай бяспецы жаданнем выратаваць прадпрыемствы абароннага комплексу. Наіўныя ілюзіі! "Абаронка" Беларусі ніколі не будзе атрымліваць ваенных заказаў з Расіі ў маштабах патрэбнасцей былога СССР. Перакананы, што адзіна правільным рашэннем з'яўляецца правядзенне сур'ёзнай, а не "касметычнай" аперацыі — канверсіі. Цяпер яе тэмпы, на мой погляд, вельмі марудныя!

Урад жа пайшоў на повадзе ў ВПК. Магчыма, што праз некалькі месяцаў пасля ўваходжання ў сістэму калектыўнай бяспекі ўзнікне нейкае "псеўдапаляпшэнне" спраў у "абаронцы". Але ці гэта выйсце са становішча? Канверсія ж затармозіцца.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*Встать! Суд идет...*

## Не просчитайтесь, "народные мученики"

Вчера стало ясно, чего добиваются члены ГКЧП, обвиняемые в "государственной измене Родине в форме заговора с целью захвата власти". С помощью всевозможных юридических уловок они пытаются остановить судебный процесс, уповая на политическую нестабильность в России. Все обоснования их ходатайств об отводе государственного обвинения сводятся в конечном итоге к политической разборке с Борисом Ельциным и его "ставленником" — Генеральным прокурором В.Степанковым. Адвокаты называют вещи своими именами: Степанков выполняет политический заказ президента "на расправу с высшими должностными лицами СССР". Посему, говорят они, нынешние работники прокуратуры, зависимые по службе от Генерального прокурора, не имеют ни морального, ни юридического права выступать в качестве обвинителей по делу о ГКЧП.

Спаянная "Матросской тишиной" лукьяновская команда заранее спланировала акцию: военная коллегия прекращает разбирательство, Верховный суд обращается в Верховный Совет России с ходатайством об отстранении Генерального прокурора Степанкова от должности, "справедливый" прокурор, назначенный хасбулатовской командой, пересматривает дело и дает оценку козням Б.Ельцина. Ореол "народных мучеников" вновь воссияет над Россией...

**Леонид ФАДЕЕВ.**

г.Москва.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Закон Рэспублікі Беларусь*

## Аб унясенні змяненняў у артыкул 15 Гаспадарчага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Артыкул 15 Гаспадарчага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь ад 5 чэрвеня 1991 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., N 21, арт. 296; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 34, арт. 539) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"Артыкул 15. Гаспадарчыя і іншыя спрэчкі, падсудныя Вышэйшаму гаспадарчаму суду Рэспублікі Беларусь

Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь вырашае:

спрэчкі, якія ўзнікаюць пры заключэнні, змяненні і скасаванні дагавораў, а таксама па выкананню дагавораў і па іншых падставах паміж бакамі, што знаходзяцца на тэрыторыі розных дзяржаў, калі пагадненнямі паміж гэтымі дзяржавамі, пагадненнем бакоў або заканадаўчымі актамі вырашэнне гэтых спрэчак аднесена да кампетэнцыі Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь;

іншыя спрэчкі, аднесеныя да ведання Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь мае права ў межах падведамнасці спрэчак гаспадарчым судам Рэспублікі Беларусь вызначаць падсуднасць гаспадарчых і іншых спрэчак, прымаць да свайго вядзення і вырашаць любую спрэчку".

Увесці дадзены Закон у дзеянне з дня яго прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

25 сакавіка 1993 г.
г.Мінск.
№ 2261-XII

***Мікола КАВАЛЕЎСКІ***

## Прачніся, любы мой народзе!

*...Прачніся, любы мой*
*народзе,*
*Адчуй нарэшце —*
*людзі мы!*
*Цябе наўмысна ў зман*
*уводзяць*
*Не Грамадзяне, а рабы.*
*Тваім даверам*
*спекулююць,*
*Смяюцца з мовы і душы,*
*Тваёй Айчынай зноў*
*гандлююць*
*Не Грамадзяне, а рабы.*
*Тваю дзяржаву*
*не шануюць,*
*Гатовы здрадзіць*
*ёй заўжды*
*І аб імперыі сумуюць*
*Не Грамадзяне, а рабы.*
*Штодня зласліва*
*лямантуюць,*
*Пужаюць прывідам бяды,*
*Свой дабрабыт прытым*
*будуюць*
*Не Грамадзяне, а рабы.*
*Гатовы годнасць*
*і свабоду*
*Прадаць за медныя*
*грошы,*
*Пасля нахабна лгуць*
*народу*
*Не Грамадзяне, а рабы...*

г.Мінск,
2.04.93 г.

*Не все так плохо*

# А метро строится!

**На строительстве Минского метрополитена продолжаются работы по продлению второй линии в западном направлении до станции Пушкинская и в сторону автозавода до станции Автозаводская.**

.Наряду с общими трудностями, которых сейчас в достатке у всех строительных организаций, минским метростроителям приходится преодолевать и трудности, приготовленные самой природой, — сложные гидрогеологические условия, неустойчивые обводненные грунты требуют высокого мастерства, дополнительных усилий по обеспечению собственной безопасности подземных строителей, а проходка тоннелей под действующими инженерными коммуникациями и проезжей частью городских улиц с интенсивным движением транспорта обязывает соблюдать особую осторожность и профессиональную бдительность, чтобы обеспечить нормальное функционирование подземного городского хозяйства, безопасность движения наземного транспорта и пешеходов.

❑ **Бригадир комплексной бригады проходчиков тоннельного отряда N 1 Управления строительства "Минскметрострой" В.П.ИВАНОВ и звеньевой В.А.МАМОНТОВ.**

❑ **Ведутся отделочные работы на станции Пушкинская.**

❑ **Есть сбойка тоннеля! (Звено проходчиков Петра Васильевича МАВЧУНА.)**

**Фото Петра КОСТРОМЫ.**





*Напярэдадні падзеі*

## Мужчыны, мужчыны...

**Якая роля мужчыны ў сучасным грамадстве? Ці больш дакладна, якія новыя патрабаванні прад'яўляе да яго наш няпросты час?**

Такая тэма беларуска-нямецкага навуковага семінара, які адбудзецца ў красавіку ў Мінску. Ён праводзіцца Нацыянальным цэнтрам стратэгічных даследаванняў сумесна з уплывовай грамадскай арганізацыяй ФРГ "Менерарбайт", евангельскай царквой зямлі Паўночны Рэйн–Вестфалія, Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і Беларускім камітэтам абароны міру. Чакаецца прыезд каля сарака грамадскіх дзеячаў, навукоўцаў і актывістаў грамадскіх рухаў Германіі.

**Іван КІРЫЧЭНКА.**

*Сенсация*

## Банк, который лопнул?

**Правление Национального банка Республики Беларусь приняло решение принудительно ликвидировать АКБ "Белорусский биржевой банк".**

Заместитель председателя Нацбанка Владимир Сидоров сообщил:

— Проверкой установлено, что ликвидируемый банк был создан незаконно. Учредителями нарушена процедура проведения открытой подписки на акции и не соблюден порядок инвестирования средств в уставный фонд банка. Выявлены серьезные нарушения в оплате акций и формировании состава акционеров, неоправданно рискованное проведение операций. С 14 апреля к работе приступила ликвидационная комиссия, к которой переходят все полномочия по управлению банком.

**Александр МАКОВСКИЙ,**
**заведующий издательско-информационным центром Нацбанка.**

**ОТ РЕДАКЦИИ.**

Разумеется, иное объяснение произошедшему дают учредители "Белорусского биржевого банка". По их мнению, "БББ" пал жертвой непоследовательного и противоречивого законодательства в банковской сфере. По этой причине неоправданно затянулся организационный период, банк долго не мог войти в деловую колею. На общем собрании акционеров, состоявшемся в начале марта, решено было уволить за "профнепригодность" управляющего банком Николая Катаржевского. На прощание экс-управляющий хлопнул дверью и заявил, что после его ухода банк не продержится и двух недель.

Независимо от того, существует ли связь между обидой экс-управляющего и решением о ликвидации "БББ", — очевидно одно: желание Национального банка республики продемонстрировать более жесткую политику и провести показательную выбраковку двух-трех аутсайдеров банковского мира.

*Нам стала вядома*

## ...І стажыроўка ў Германіі

**Напярэдадні веснавой пасяўной завяршыліся заняткі на курсах фермераў пры Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце.**

Некалькі дзесяткаў пасланцоў Прынямоння і Брэстчыны, якія здалі экзамены і залікі, атрымалі пасведчанні аб прысваенні кваліфікацыі арганізатараў фермерскіх (сялянскіх) гаспадарак. На працягу трох месяцаў яны вывучалі арганізацыйна-эканамічныя, прававыя і кіраўніцкія асновы вядзення такіх гаспадарак, тэхналогію вытворчасці прадукцыі земляробства і жывёлагадоўлі, пытанні будовы і эксплуатацыі машын для механізацыі вытворчых працэсаў, аховы працы і аховы навакольнага асяроддзя.

Паралельна з асноўным па 100-гадзіннай праграме працаваў факультатыўны курс па вывучэнню нямецкай мовы. Справа ў тым, што многія выпускнікі летам адправяцца на стажыроўку ў Германію, дзе на працягу двух месяцаў будуць працаваць у мясцовых фермерскіх гаспадарках з аплатай працы ў нямецкіх марках.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
*г.Гродна.*

## Створаны цэнтр стратэгічных даследаванняў

**Створана новая недзяржаўная арганізацыя Рэспублікі Беларусь "Нацыянальны цэнтр стратэгічных даследаванняў".**

Яе заснавальнікамі з'яўляюцца Беларускі камітэт абароны міру, а таксама аўтарытэтныя вучоныя і грамадскія дзеячы рэспублікі.

Асноўнымі задачамі недзяржаўнай структуры стануць даследаванні праблем вайны і міру, міжнароднага супрацоўніцтва, нацыянальнай бяспекі і нераспаўсюджання ядзернай зброі, аналіз і прагназіраванне палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця, вывучэнне экалагічнай абстаноўкі, дэмаграфіі.

*г. Мінск.*

## Плакалі грошыкі

**На рэкламу, якая абяцала вялікія дывідэнды акцыянерам "Магілёўсервісу", "клюнулі" многія жыхары абласнога цэнтра.**

Крыху больш як год таму назад на ўстаноўчы сход новага акцыянернага таварыства прыйшло больш за паўсотні чалавек, якія верылі ў магчымасць сумленна зарабіць. Сёння яны спрабуюць хоць бы вярнуць сваё, паколькі падатковая інспекцыя спісала ўсе ўклады, а гэта больш за 600 тысяч рублёў, у бюджэт за даўгі АТ, таму што "Магілёўсервіс" аказаўся банкрутам.

**Белінфарм.**

*Ёсць праблема*

## Не Вавілона ж нам чакаць!

Жыву я ў вёсцы Германовічы Жлобінскага раёна. Інвалід вайны II групы. З 1988 года звяртаюся ў Жлобінскі раённы вузел сувязі, каб правялі тэлефон. Кажуць: няма нумароў, няма прыстасавання для спарвання тэлефонаў, няма кабелю. Недалёка ад мяне жывуць іншыя інваліды, у іх тэлефоны ёсць, але працуюць праз дзень. Выклікаюць майстра, ён крыху пакорпаецца і зноў аніякіх гукаў. Няўжо такая сувязь са светам і ў старшыні Кароткавіцкага сельвыканкама? Справіўся, кажа, у мяне ўсё добра.

Дык што ж гэта за здзекі над старымі, якім даводзіцца на дні па два разы доктара выклікаць? Што ж гэта за парадкі, што трэба за чатыры кіламетры ісці на пошту, каб паштоўку адправіць? Раней кінуў у паштовую скрынку — і парадак. Цяпер патрэбны маркі ў "бліжэйшае замежжа", якіх днём з агнём не знойдзеш. За што Міністэрства сувязі нашыя грошыкі дзярэ? Чаму не паслухаюць гэтага міністра дэпутаты, мо ён мае слушныя прапановы, як дапамагчы людзям і аблегчыць ім сувязь паміж сабой. Трэба ж нешта рабіць, каб не раз'ядноўваліся людзі, пісалі пісьмы і слалі пасылкі, бандэролі, тэлеграмы. Не Вавілона ж чакаць. Жыццё ідзе і будзе ісці, і ніякія СНД на яго не павінны ўплываць.

**Аляксей ІСАЕНКА.**
*в.Германовічы.*

# С. Шушкевіч супраць уваходжання Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі СНД

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Выступаючы на сесіі парламента, В. Кебіч заявіў, што пакуль ён будзе знаходзіцца на пасадзе кіраўніка ўрада, грамадзяне Беларусі не будуць накіроўвацца для праходжання ваеннай службы ў "гарачыя" кропкі. На жаль, не магу падзяліць у гэтым канкрэтным выпадку аптымізму кіраўніка ўрада! Мяркуецца, што калі ў Беларусі ўзнікаюць цяжкасці, дык да нас прыедуць ваенныя спецыялісты з іншых дзяржаў СНД, напрыклад, для выканання рэгламентных работ па абслугоўванню асобных відаў тэхнікі. Дык няўжо мы не накіруем сваіх спецыялістаў для выканання такіх жа рэгламентных работ на выробленых у нас сістэмах, тым больш у цяжкі для гэтых краін час, г. зн. тады, калі ў іх ёсць "гарачыя кропкі"? Не можа ж Дагавор аб калектыўнай бяспецы даваць перавагі нам і не даваць іх іншым!

Адзначу, што Вячаслаў Францавіч ні разу не выказваўся за ўваходжанне ў ваенны саюз краін СНД ад свайго асабістага імя. Ён заўсёды заяўляў аб гэтым ад імя Савета Міністраў — калектыўнага органа. Дарэчы, калектыўная думка ў такой структуры, як урад, носіць умоўны характар. Піраміда ўлады там працуе дакладна.

Акрамя таго, мне незразумелы юрыдычны аспект працэдуры, якую мне даручылі правесці народныя дэпутаты, а менавіта — падпісаць ад імя Рэспублікі Беларусь Дагавор аб калектыўнай бяспецы. Гэты дакумент прадугледжвае толькі далучэнне да Дагавора, г. зн. ратыфікацыю парламентам, а формула "падпісання" артыкуламі дакумента не прадугледжана. У той жа час немагчыма і ратыфікаваць гэты Дагавор, паколькі ён яшчэ не ўступіў у сілу. "Дагавор уступае ў сілу неадкладна пасля здачы на захоўванне ратыфікацыйных грамат падпісаўшымі яго дзяржавамі-удзельніцамі", — гаворыцца ў дакуменце. Наколькі мне вядома, гэта зрабіла толькі Арменія.

Мінулыя два дні я кансультаваўся з многімі юрыстамі, пераважна беларускімі. Яны ўсміхаюцца і гавораць, што даць прававую параду ў гэтай сітуацыі проста немагчыма. Парадокс. Я не ведаю, што мне падпісваць, але ў той жа час абавязаны выканаць волю Вярхоўнага Савета!

І яшчэ. Для мяне зусім відавочна, што ў Беларусі, Расіі, ды і ў іншых краінах СНД ажывіліся ворагі дэмакратыі. Пад лозунгамі "волевыяўлення працоўных" у іх узнікае жаданне адрадзіць Савецкі Саюз як таталітарную структуру. Небяспечна, што гэта жаданне генерыруецца на месцах. Пад дудку антыдэмакратычных сіл скачуць, не баюся гэтага слова, многія дэпутаты. Адны, ва ўрадзе, умеюць кіраваць толькі па-старому, другім — дэмакратыя надакучыла, трэціх — да старога цягне, а чацвёртыя — заслужаныя, па фармальных прыкметах, — жадаюць зноў паспытаць прыгажосці наменклатурнага жыцця. Усе яны аб'ядналіся і выступілі з ініцыятывай адыходу ад суверэнітэту. На мой погляд, ініцыятыва аб далучэнні Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы фактычна гэта і азначае.

**— Чаму вы лічыце, што ўрад кіруе па-старому?**

— Савет Міністраў "прыгрэў" такую колькасць дэпутатаў, што лёгка можа правесці любое рашэнне ў парламенце. Ніякага раздзялення ўлады ў нас няма. Намеснік старшыні буйнейшага дзяржкамітэта рэспублікі адначасова можа з'яўляцца дэпутатам Мінскага гарсавета і дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. Дзе ў гэтай сітуацыі заканчваецца прадстаўнічая і пачынаецца выканаўчая ўлада — цяжка сказаць. Але ўлада застаецца ў тых жа структурах, дзе і была, застаецца ў тых жа асоб, у каго і была. І калі няхай непаўнацэннымі, але ўсё ж крокамі мы ішлі да самастойнасці дзяржавы, гэта аказалася не пад сілу многім дэпутатам, што прывыклі працаваць па дырэктыве.

Статыстычнае ўпраўленне, што знаходзіцца ў распараджэнні ўрада, дакладае, што ў студзені-лютым гэтага года ў Беларусі назіраецца рост прамысловай вытворчасці. Я бяру гэтыя лічбы на ўзбраенне, паколькі веру нашаму ўраду. Але на справе аказваецца, што лічбы гэтыя ні аб чым не гавораць — яны былі атрыманы на падставе прыдуманых вытворцамі цэн і аб'ёмаў. Значная частка прадукцыі не знайшла збыту, і, калі атрымліваю баланс па банку, становіцца ясна, што ў рэспубліцы адбываецца моцны спад вытворчасці. Каго ж яны падманваюць?

Ранейшае кіраўніцтва Беларусі, у бытнасць СССР, добра ўмела браць грошы ў Маскве. Але ў адзінай дзяржаве іх не трэба было вяртаць, а цяпер трэба. Калі Вярхоўны Савет узяў пад свой кантроль грашовыя справы ўрада, высветлілася, што ў Беларусі акрамя вялікага доўгу ў СКВ ёсць яшчэ і больш чым 100-мільярдны рублёвы. Такую суму ў якасці тэхнічнага крэдыту прадаставіў нам банк Расіі, і яна, гэтая сума, ператварылася ў доўг, г. зн., акрамя дзяржбюджэту, Савет Міністраў свабодна распараджаецца дадатковай сумай, якую будуць пагашаць нашы дзеці ці, ва ўсякім разе, нашы пераемнікі. У наяўнасці глыбокі крызіс улады. Вярхі не могуць кіраваць па-новаму. Гэты крызіс ужо набывае гратэскныя формы: "калі Беларусь не далучыцца да Дагавора аб калектыўнай бяспецы, матухна-Расія не дасць нам ні нафты, ні газу!" Ці не абсурд?

**— Вы лічыце сябе палітычным праціўнікам В. Кебіча?**

— Ніякага асабістага процістаяння няма. Ёсць цывілізаванае процістаянне ідэй, падыходаў. Вячаслава Францавіча лічу патрыётам Беларусі і імкнуся пераканаць яго ў слушнасці маёй думкі. Тым больш, што ў мяне з'явіліся новыя аргументы, пра якія я, выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета, яшчэ не ведаў.

Акрамя таго, ёсць даволі просты і дэмакратычны шлях — рэферэндум. Прапаную вынесці пытанне з фармулёўкай тыпу: "Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленне ад ваенна-палітычных саюзаў з іншымі краінамі і іх аб'яднаннямі?" Мне вядомы вынікі аператыўна праведзеных сацыялагічных даследаванняў. Паводле іх даных, пераважная большасць людзей не жадае, каб Беларусь уступала ў ваенны блок.

**—Апошняе пытанне. У пятніцу ў Мінску збяруцца кіраўнікі дзяржаў СНД на нечарговую сустрэчу. Чым выклікана такая неабходнасць?**

— Абставіны прымушаюць неадкладна сфармуляваць прынцыпы ўмацавання Садружнасці, як зрабіць больш эфектыўнымі працэдуры эканамічнага ўзаемадзеяння ў СНД. Не выключана, што не будуць падпісвацца ніякія пагадненні, магчыма, будзе сумеснае камюнікэ. Патрэбна стратэгічнае асэнсаванне курсу рэформ, узаемавыгадная ўзгодненасць дзеянняў.

*Постановление Совета Министров Республики Беларусь*

# О дополнительных мерах по удовлетворению потребностей граждан в земельных участках под огороды

В целях максимального удовлетворения в 1993 году потребностей населения городов в земельных участках для выращивания картофеля и овощей Совет Министров Республики Беларусь **постановляет:**

1. Горисполкомам в недельный срок определить потребность работников предприятий, учреждений, организаций городов в земельных участках под огороды, а облисполкомам и райисполкомам, исходя из сложившихся шефских связей между трудовыми коллективами городов и хозяйствами районов, обеспечить выделение (без изъятия у прежних землепользователей и землевладельцев) указанных участков до 25 апреля 1993 года из земель колхозов, совхозов и других сельскохозяйственных предприятий.

Установить, что картофель и овощи, выращенные на выделенных в соответствии с настоящим постановлением земельных участках, засчитываются в объемы производства и реализации продукции колхозов, совхозов и других сельскохозяйственных предприятий, предоставивших эти участки. Министерству сельского хозяйства и продовольствия, Министерству финансов, Госэкономплану и Госкомстату определить порядок зачета указанной продукции.

2. Горисполкомам провести инвентаризацию земель городов с целью выявления земельных участков, пригодных для сельскохозяйственного использования, и до 25 апреля 1993 г. передать эти участки жителям городов под огороды, обеспечив в первую очередь выделение участков инвалидам, пенсионерам.

3. Облисполкомам и райисполкомам рассмотреть возможность предоставления по заявкам горисполкомов городским жителям земельных участков под огороды за счет земель, которые в соответствии с концепциями территориального развития и генеральными планами городов в ближайшие 5 лет предназначаются для их расширения.

4. Минскому облисполкому, Министерству обороны совместно с Минским горисполкомом решить до 1 мая 1993 г. вопрос о выделении жителям г.Минска под огороды земельного участка площадью 200 га и земель Минского учебного центра, на котором намечается строительство жилого микрорайона.

5. Рекомендовать исполкомам местных Советов народных депутатов, руководителям предприятий, учреждений, организаций, колхозов, совхозов и других сельскохозяйственных предприятий оказывать помощь трудовым коллективам и гражданам, которым выделены земельные участки, в приобретении посадочного и посевного материала, органических и минеральных удобрений, проведении весенних полевых работ, уходе за посевами и уборке урожая.

6. Установить, что земельные участки под огороды предоставляются в соответствии с настоящим постановлением гражданам, не имеющим в пользовании земель, а также гражданам, которым отведены земельные участки для садоводства, индивидуального жилищного строительства в меньших размерах, чем предусмотрено Кодексом Республики Беларусь о земле.

7. Исполкомам местных Советов народных депутатов, Комитету по земельной реформе и землеустройству при Совете Министров Республики Беларусь провести в 1993 году работу по уточнению специального фонда земельного запаса местных Советов народных депутатов, предусмотрев зачисление в него земельных участков, расположенных вблизи автомобильных и железных дорог, для передачи их для индивидуального и коллективного садоводства, огородничества.

8. Комитету по земельной реформе и землеустройству при Совете Министров Республики Беларусь проверить выполнение исполкомами местных Советов народных депутатов принятых решений Верховного Совета Республики Беларусь и Совета Министров Республики Беларусь по вопросам выделения гражданам земельных участков для ведения личного подсобного хозяйства, строительства и обслуживания жилого дома, садоводства и огородничества.

О результатах доложить Совету Министров Республики Беларусь до 1 июня 1993 г.

**Председатель Совета Министров Республики Беларусь**
**В.КЕБИЧ.**

**Управляющий делами Совета Министров Республики Беларусь**
**Н.КАВКО.**

15 апреля 1993 г.
г. Минск.
№237

*Этот многоликий бизнес...*

## Лариска, в сумку!

**Как же прозорлив был Роман Карцев, дополнивший монолог о раках с розой: "Мне вчера один жабу за рубль предлагал. Ну вот такая зеленая!"**

Это на сцене, а в жизни гибкая конъюнктура сменила еще недавно сверхходовых за Бугом черепах на одомашненных декоративных крыс. Сегодня в Бресте действует целая команда натуралистов-бизнесменов, занимающихся разведением новых фаворитов польских базаров; за одну способную к деторождению крыску можно, не пересекая границы, получить 5000 рублей наличными.

**Василий САРЫЧЕВ.**

## На Гомельщине появятся американские банки. Со сгущенкой

**Представитель американской сельскохозяйственной корпорации "Сити-хоуп интернешнл" Тэд Финн заключил с 11 районными потребительскими обществами Гомельщины договора на поставку из США 2,1 тысячи тонн продуктов — риса, муки, сгущенного молока, растительного масла, детского питания.**

70 процентов продуктов будет продано через магазины для населения, пострадавшего в результате чернобыльской катастрофы. Остальная часть поступит в детские дома, школы-интернаты, дома престарелых, больницы в порядке гуманитарной помощи. Кстати, впервые подобная акция была предпринята в прошлом году.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

*Хочу сказать...*

## Выродки не должны быть на свободе

Недавно во многих газетах прошла заметка о том, что американский суд приговорил жителя города Финикс (штат Аризона) Мартина Юджина Прайса к 50 годам тюремного заключения. За что? За сексуальное насилие над 14-летним мальчиком и 12-летней девочкой.

Заметьте, хотя здоровье подростков и вне опасности, американская Фемида сурово поступила с негодяем. По нашим же законам он через несколько лет гулял бы на свободе. Не потому ли у нас преступность растет из года в год. На мой взгляд, законы должны быть более строгими. Выродкам, подонкам место за колючей проволокой, а не на свободе.

**Сергей КОЗЛОВСКИЙ.**
*г.Минск.*

*Из почты*

## Душевная помощь важнее материальной

Первый раз в жизни попал в целый городок больных. Неожиданно заболел глаз, стал терять зрение и червенский врач направил меня к профессору Тамаре Андреевне Бирич в 3-ю клиническую больницу. Волновался я, провинциальный человек, а встретили радушно, окружили домашней заботой, добром, уверили: все будет хорошо! Произошло действительно чудо. Но не само по себе — его сотворили врачи. Я снова вижу и хочу низко поклониться всем в этом храме медицины. Именно здесь я понял, как важна душевная помощь.

**Евгений ДУБРОВСКИЙ.**
*г.Червень.*

